№ 83 (3926)
24 кастрычніка 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

УЧОРА

## Як стаць геніем?

***Аляксандр Лукашэнка ўчора задаваў пытанні, за адказы на якія трэба даваць Нобелеўскую прэмію: "Ці ёсць у вас ідэі, героі, творы, якія могуць зацікавіць чалавека XXI стагоддзя? У чым прычына таго, што за мінулыя 20—30 гадоў так і не з'явіліся сучасныя Война и мир", Поднятая целина"?.."***

Мерапрыемства анансавалася як сустрэча з пісьменнікамі, але на самай справе яе можна назваць сустрэчай з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі, бо прысутнічалі і прадстаўнікі тэатра (напрыклад, Мікалай Пінігін), і прадстаўнікі кінематографа (Аляксандр Яфрэмаў). Напэўна, упершыню на размову да кіраўніка дзяржавы былі запрошаны не толькі праўладныя дзеячы, але і прадстаўнікі Саюза беларускіх пісьменнікаў, а таксама ПЭН-цэнтра.

Пытанні, якія задаваў Аляксандр Лукашэнка, былі ў нечым наіўнымі, але ў нечым і справядлівымі. "У жыцці нашага народа літаратура заўсёды была сродкам пазнання свету і выхавання асобы. Нездарма паэзія і проза Купалы і Коласа, Багдановіча і Мележа, Караткевіча і Быкава з'яўляюцца крыніцай нацыянальнага гонару многіх пакаленняў беларусаў. Чаму найвышэйшая планка, паднятая нашымі вялікімі пісьменнікамі, не адпавядае сённяшняму стану літаратурнага працэсу?" — напрыклад, запытаў Лукашэнка.

Пытанне слушнае. На аўтарытарную палітычную сістэму, якая існуе ў нашай дзяржаве, усе праблемы спісваць нельга. Хаця б таму, што зусім не дэмакратычныя савецкія часы нараджалі нобелеўскіх лаўрэатаў па літаратуры. Дарэчы, і ў апошнія гады беларусы не раз прэтэндавалі на Нобелеўскую прэмію і нават былі ў ліку фаварытаў на яе атрыманне. Сярод намінантаў на Нобелеўскую прэмію былі Васіль Быкаў, Алесь Разанаў, Рыгор Барадулін, Уладзімір Някляеў, Святлана Алексіевіч, што сведчыць пра належны ўзровень беларускай літаратуры ў кантэксце сусветнай. Вось толькі нельга не звярнуць увагу, што ўсе гэтыя людзі не мелі ад дзяржавы ні фінансавай, ні маральнай, ні нейкай іншай падтрымкі. Мала таго, ад роднай дзяржавы яны атрымлівалі толькі праблемы, а часам — адкрытае зневажанне.

Больш падрабязна пра тое, як прайшла сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з літаратарамі і ці з'явіцца калі-небудзь наша "Поднятая целина", чытайце ў наступным нумары "Народнай Волі".

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ЗНАЁМЦЕСЯ

## «Цень» прэзідэнта

Аляксандр Лукашэнка прызначыў **Віктара ШЫНКЕВІЧА** кіраўніком службы бяспекі прэзідэнта. Яго прозвішча было вядома некаторым дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання, калі ён кіраваў аховай спікера **Сямёна ШАРЭЦКАГА**. Менавіта тады дэпутаты выступілі супраць Лукашэнкі і ледзь не абвясцілі яму імпічмент. Дэпутаты з атачэння Сямёна Шарэцкага кажуць, што Шынкевіч нічым асаблівым не вызначаўся і таму пра яго нічога сказаць не могуць. Бачылі, але каву з ім не пілі і ніякіх размоў не вялі.

Шмат часу Шынкевіч кіраваў службай, якая адказвала за бяспеку месцаў, куды з паездкамі накіроўваўся Аляксандр Лукашэнка.

Сам кіраўнік краіны сказаў, што было некалькі кандыдатур на месца начальніка яго аховы.

*"Напэўна, ведаеце, што нехта разглядае гэта як добрае, удалае, цёплае месца, не разумеючы таго, куды ён ідзе, некаторыя проста хочуць паспрабаваць сябе на гэтай пасадзе. Перада мной былі два моманты: прызначаць чалавека з боку, каб страсянуць тым самым Службу бяспекі, ці ж пакінуць чалавека, які доўгі час праслужыў у Службе бяспекі, добра яе ведае, каб яму не даводзілася вывучаць яе, уключацца дадаткова ў службу і тым самым губляць час. Як разумееце, часу ў нас няма, каб разгойдвацца, у нас хапае мерапрыемстваў, дзе трэба і забяспечваць бяспеку прэзідэнта, і вырашаць іншыя пытанні, якія ляжаць на Службе бяспекі"*, — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

У выніку кіраўнік Беларусі спыніўся на апошнім варыянце. Так што ўзрушэнняў не чакаецца, хаця Аляксандр Лукашэнка сказаў, што ў яго ёсць "маса пытанняў да Службы бяспекі прэзідэнта".

Пра палкоўніка Віктара Шынкевіча вядома, што ён нарадзіўся ў 1960 годзе ў вёсцы Кромавічы Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці. У 1982 годзе скончыў Беларускі тэхналагічны інстытут, у 1987 годзе — Вышэйшыя курсы КДБ СССР, у 2002-м — Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. З 1986-га па 1995 год працаваў на розных пасадах у органах КДБ. З 1995-га — у Службе бяспекі Аляксандра Лукашэнкі. Апошнія 7 гадоў быў намеснікам кіраўніка. Узнагароджаны дзяржаўнымі ўзнагародамі, у тым ліку ордэнам "За службу Радзіме" III ступені.

Раней Службу бяспекі Аляксандра Лукашэнкі ўзначальваў палкоўнік **Андрэй Уцюрын**. Ён нарадзіўся ў расійскай Пензе, скончыў Саратаўскае вышэйшае ваеннае каманднае вучылішча МУС Расіі. У 1992 годзе прыехаў у Беларусь. Служыў у "Алмазе", паводле інфармацыі з некаторых крыніц — некаторы час у сумнавядомай "брыгадзе Паўлічэнкі", аднак ужо ў 1995 годзе апынуўся ў Службе бяспекі прэзідэнта. Хутка зрабіў кар'еру і цяпер прызначаны намеснікам дзяржсакратара Савета бяспекі.

КАДРЫ

*Уладзімір ГАНЧАРЫК, былы кіраўнік Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі:*

## «Як жылі прафсаюзы ціха-мірна, так і будуць жыць»

***У Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі новы кіраўнік. Замест Леаніда Козіка арганізацыю ўзначаліў Міхаіл Орда. Што вядома пра новага прафсаюзнага лідара? Ці трэба спадзявацца, што з яго прыходам афіцыйныя прафсаюзы ўрэшце будуць выконваць тую ролю, якая ім прадпісана па азначэнні — бараніць правы работнікаў перад працадаўцамі?***

Міхаілу Орду 48 гадоў. Але ў яго службовай біяграфіі ўжо досыць высокіх пасад. Двойчы абіраўся дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, быў сакратаром Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі. А пачынаўся ягоны ўзлёт з работы слесара ў калгасе "Расія" Дзятлаўскага раёна. Паводле адукацыі Міхаіл Орда ветэрынар, скончыў Расійскую акадэмію дзяржаўнай службы пры прэзідэнце Расіі.

Да прафсаюзнага руху Орда ніколі не меў ніякага дачынення. Але гэтая акалічнасць не перашкодзіла членам Савета ФПБ прагаласаваць за ягоную кандыдатуру. Як заўважыў лідар Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў **Аляксандр Ярашук**, здзіўляцца няма чаму, бо *"выконвалі волю і панскі капрыз Лукашэнкі"*.

Тым не менш вакол гэтага прызначэння ўзнікла нямала пытанняў. Чаму раптам вярнулі ў абойму, можна сказаць, на дзяржаўную службу Міхаіла Орду? Апошнім часам ён займаў не самую адказную пасаду — кіраўнік Прадстаўніцтва Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы ў Мінску. Сюды часцей адпраўляюць "служыць" чыноўнікаў-пенсіянераў. У Прадстаўніцтве маюць пасады былы міністр па падатках і зборах Ганна Дзейка, кіраўнік прэзідэнцкай канцылярыі Уладзімір Мацвяйчук, віцэ-прэм'ер Іван Бамбіза і іншыя.

*— Дзівіцца няма чаму. Гэта заканамерная паслядоўнасць,* — каменціруе новае кадравае прызначэнне былы кіраўнік Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі **Уладзімір ГАНЧАРЫК**. — *Аўтарытарныя рэжымы бяруць пад свой кантроль усе самыя масавыя арганізацыі краіны. Мы, праўда, яшчэ не дайшлі да таго, як у адной з рэспублік Сярэдняй Азіі, дзе міністр працы выконвае функцыі старшыні федэрацыі прафсаюзаў. Але тым не менш кіраваць ФПБ, якая налічвае сёння больш за 4 мільёны чалавек, дазваляюць толькі чалавеку сістэмы. А Міхаіл Орда менавіта такі і ёсць: быў дэпутатам, лідарам БРСМ. Арганізатарскімі якасцямі ён, відавочна, валодае. Але апынуўся, на мой погляд, перад складаным выбарам.*

*З аднаго боку, яму трэба прыслухацца да таго, што робіцца ў працоўных калектывах, першасных прафсаюзных арганізацыях. А там абстаноўка неадназначная. З другога боку, трэба азірацца на ўрад, на меркаванне ўлады. Пачынаеш бадацца з урадам — робішся непажаданым. Наўрад ці Орду захочацца лезці на ражон, супраціўляцца такім адыёзным нормам, як кантрактная сістэма, крытыкаваць ідэю арганізацыі працоўных лагераў для перавыхавання беспрацоўных і дармаедаў, пра якія загаварыў Лукашэнка. Думаю, як жылі прафсаюзы ціха-мірна, так і будуць жыць. Гэта прызначэнне не на карысць прафсаюзнаму руху краіны. Больш за тое, нават на шкоду дзяржаве. Бо, калі сёння ставіцца пытанне аб тым, каб палепшыць імідж краіны, наладзіць адносіны з Еўропай, трэба было б задумацца, як мяняць сістэму прафсаюзнага руху, і накіраваць у ФПБ, так бы мовіць, чыноўніка еўрапейскага напрамку. Наўрад ці былы маладзёжны лідар адмовіцца ад той палітыкі, якую праводзіла ранейшае кіраўніцтва арганізацыі, што і прывяло да таго, што ФПБ апынулася ў ізаляцыі, стала ізгоем. Сёння ў Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі няма сувязяў нават з прафсаюзамі Расіі, не кажучы ўжо пра міжнародны прафсаюзны рух.*

Дарэчы, першыя прамовы Міхаіла Орды ў якасці старшыні ФПБ звяліся да таго, што арганізацыя дзеля барацьбы за правы работнікаў будзе шчыльна працаваць з урадам. А што да свайго прызначэння, дык Міхаіл Орда заўважыў: *"Гэта для мяне вялікі гонар і адказнасць, таму што, як сказаў прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, прафсаюзы, Саветы дэпутатаў, маладзёжныя арганізацыі з'яўляюцца апорай для нашай дзяржавы і грамадства..."*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**



Міхаіл Орда.

ВІНШУЕМ!

## Алексіевіч атрымала ўзнагароду ад імя прэзідэнта Францыі



Беларуская пісьменніца ўшанавана званнем афіцэра Ганаровага ордэна мастацтваў і літаратуры Французскай Рэспублікі.

Нагодай для ўзнагароды стаў цыкл кніг пад агульнай назвай "Чырвоны чалавек. Галасы ўтопіі". Узнагароджанне адбылося 21 кастрычніка ў загараднай рэзідэнцыі французскага амбасадара **Дамінік Газюі**, паведамляе tut.by. На вечарыне, прысвечаным гэтай падзеі, прысутнічалі сябры і блізкія Алексіевіч.

Святлана Алексіевіч — аўтар кніг дакументальнай прозы "У вайны — не жаночае аблічча", "Апошнія сведкі", "Цынкавыя хлопчыкі", "Чарнобыльская малітва", "Час сэканд хэнд". Гэтыя творы ўваходзяць у аўтарскую серыю кніг пад назвай "Галасы ўтопіі".

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Вінаградаў на волі. Ці надоўга?

*Актывіст маладзёжнага крыла кампаніі «Гавары праўду!» Павел Вінаградаў адбыў чарговы 15-сутачны арышт і атрымаў апавяшчэнне аб падаўжэнні тэрміну прэвентыўнага нагляду за сабой з боку міліцыі.*

Гэта своеасаблівы рэкорд — прэвентыўны нагляд тры з паловай гады. Яшчэ б паўгода, і быў бы той самы тэрмін пакарання, які Павел атрымаў за ўдзел у акцыі пратэсту ў дзень мінулых прэзідэнцкіх выбараў.

Нагадаем, што падчас апошняга арышту праваабаронцы і дэмакратычныя актывісты абвясцілі пра пачатак кампаніі салідарнасці з Вінаградавым, патрабуючы спыніць пераслед 26-гадовага хлопца. Справа ў тым, што з-за пастаянных арыштаў Павел фактычна жыве ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў.

— Пра кампанію я даведаўся з "Народнай Волі", — расказаў Павел. — Мае сакамернікі таксама чыталі газеты і казалі: "Ого, з якім чалавекам мы сядзім!". З аднаго боку, чытаць пра праявы салідарнасці вельмі прыемна. З другога — разумею, што ўлады пакінуць мяне ў спакоі толькі пры адной умове — калі я адмоўлюся ад грамадскай дзейнасці. Гэта ж страшылка для іншых: будзеце там нешта "вякаць" — таксама будзеце сядзець. Таму лічу, што сёння гэта нерэальна. Але вельмі ўдзячны за маральную падтрымку.

**— Рэкорд па адсідках — гэта ж не жарты... Як сядзелася апошні раз?**

— Ды ўсё было, як звычайна. Дарэчы, да мяне былі пасадзілі двух "бомжыкаў", дык я нават не вытрымаў і напісаў заяву, каб неяк вырашылі сітуацыю. Нічога не маю супраць "бомжыкаў", але смурод быў невыносны. І да таго ж яны ўвесь час чухалі сябе. Праўда, праз пару дзён іх забралі.

**— 25 кастрычніка павінен быў скончыцца тэрмін прэвентыўнага нагляду за табой з боку міліцыі, які і без таго доўжыўся два з паловай гады. Але дадалі яшчэ год...**

— Ды я абсалютна не здзіўлены. Фармальна ўсё зроблена па законе. Тут нават справа не толькі ў тым, што дадалі год, а яшчэ і ў тым, што калі раней адзначацца ў міліцыі можна было цягам дня, то цяпер — толькі ў пятніцу цягам адной гадзіны — з 9 да 10 раніцы. І я не здзіўлюся, калі ў гэтую ж пятніцу мяне адправяць зноў на суткі, напішуць, што нецэнзурна лаяўся ці яшчэ нешта. Фантазію можна асабліва не напружваць. Але ўсё роўна ніводны чалавек у міліцыі мой лёс не вырашае. Яны ўсяго толькі выканаўцы. Я магу сам значна больш зрабіць для свайго лёсу, чым яны ўсе разам узятыя.

*Нагадаем: Павел Вінаградаў выйшаў на волю ў верасні 2011 года. З тых часоў яго затрымлівалі 16 разоў. 15 разоў ён адбываў арышты ад 5 да 25 сутак, агулам — 165 дзён. Сумарна гэта пяць з паловай месяцаў. Толькі сёлета актывіст адседзеў 65 сутак.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

УВАГА!

## «Народная журналістыка» — жывая мікрааналітыка становішча ў краіне

Падыходзіць да канца тэрмін падачы прац на конкурс „Народны журналіст — 2014". Удзельнічаць у конкурсе могуць усе, акрамя прафесійных журналістаў. Арганізатары запрашаюць дасылаць тэксты, фота- і відэаматэрыялы пра балючыя мясцовыя праблемы, у якіх паказаць шляхі вырашэння праблем ды натхніць іншых на супольную дзейнасць. Пераможцы атрымаюць магчымасць апублікаваць свае тэксты ў інтэрнэце, незалежных медыя ў друкаваным выглядзе, а таксама стаць уладальнікамі патрэбнай у працы тэхнікі.

Першы такі конкурс прайшоў у 2011 годзе. Удзел у ім за тры гады ўзялі больш за 350 чалавек з розных рэгіёнаў Беларусі. Сёлетнія намінацыі: "Найлепшы тэкст"; "Найлепшы мультымедыйны матэрыял"; "Малады народны журналіст"; "Баронім сваё" — пра мясцовыя культурныя каштоўнасці. У журы ўваходзяць вядомыя журналісты, творцы, грамадскія дзеячы.

Сярод ранейшых пераможцаў — жыхары гарадоў і вёсак усіх абласцей краіны. Некаторыя з іх здолелі з дапамогай "Народнага журналіста" спыніць беззаконне (напрыклад, адстаяць зялёную зону вакол водазабору), прыцягнуць грамадскую ўвагу да небяспечных тэндэнцый (такіх як знішчэнне сацыяльнай інфраструктуры на вёсцы).

Дзеліцца ўражаннямі дыпламат і лінгвіст **Пётра Садоўскі**: *"Прыходзяць цікавыя і актуальныя тэксты. Чаго нам зараз не хапае, дык гэта нязмушанага сумоўя людзей. Досвед паказаў, што жывая "мікрааналітыка", угрунтаваная на прыкладах, якія перад вачыма, можа закранаць і будзіць мясцовых людзей, падводзіць іх да сур'ёзных высноў і да дзеяння. Калі дзякуючы "Народнаму журналісту" задумаюцца і пачнуць дзейнічаць хаця б некаторыя людзі — гэта будзе рэальны вынік".*

Як кажа Садоўскі, паасобныя сітуацыі, апісаныя канкурсантамі, служаць добрым маніторынгам становішча ў краіне ў цэлым: *"Калі інфармацыя надта агульная — яна не чапляе. Вось масава закрываюць малыя вясковыя (і пераважна беларускія) школы. Вынішчаюць прыватную свінагадоўлю. Замест вясковага жыцця ўкараняюць "аграгарадское". Усё разам гэта ёсць зачыстка беларускай зямлі ад яе сапраўдных гаспадароў".*

Пра крытэрыі найлепшых прац кажа вядомы рэжысёр тэатра і кіно **Валерый Мазынскі**: *"Найлепшыя "народныя журналісты" — такія, якім хочацца дапамагаць. Яны пішуць і змястоўна, і вобразна, і таму — запамінальна. Сацыяльна завострана, але без злосці. Іранічна, што яшчэ каштоўней. Праўда, паказаная там, крычыць: трэба падаваць у... пракуратуру! Але ж у якую?! Таму самыя каштоўныя — тэксты і відэа, што цягнуць за сабой рэакцыю людзей і гатоўнасць браць свой лёс у свае рукі".*

**Адам ПАРЭЦКІ.**

### КОНКУРС «НАРОДНЫ ЖУРНАЛІСТ»

***Найлепшы матэрыял пра мясцовыя праблемы***
***Чакаем Ваш тэкст, фотарэпартаж, відэа, аўдыё, інтэрнэт-дзённік.***
***Дэталі на www.narodny.by.***

**УМОВЫ**

**Публікацыя павінна натхніць людзей да салідарнай дзейнасці, каб разам дамагчыся выніку.**

Праблема, паднятая аўтарам, звязана з пэўным паселішчам, раёнам, прадпрыемствам, прафесійнай ці іншай групай. Гэта і адсутнасць грамадскага кантролю за мясцовымі ўладамі і бюджэтамі, і няўвага ды непавага да людзей; і дыктат — ідэалагічны, культурны, моўны... Становішча на канкрэтным прадпрыемстве: заробкі, беспрацоўе, непразрыстая прыватызацыя. Цэны, мясцовы рынак, беды дробных прадпрымальнікаў. Карупцыя. Сацыяльныя кантрасты (як катэджы ля азёраў). Але ўсюды павінны быць мясцовыя факты.

**УДЗЕЛЬНІКІ**

Грамадзяне Беларусі, якія хочуць зрабіць краіну лепшай. Але яны не павінны быць прафесійнымі журналістамі.

**МАТЭРЫЯЛ:**

— не публікаваўся раней;

— розных жанраў: нататка, інтэрв'ю, рэпартаж, хроніка, нарыс, спокліч, серыя інфармацыйных матэрыялаў, кліп, відэаблог і г.д.;

— відэа, знятае любым чынам: відэа-, фота-, вэб-камерай;

— матэрыял павінна пачынаць кароткае рэзюмэ.

Конкурсныя працы ранейшых гадоў можна пабачыць на www.old.narodny.by .

**НАЙЛЕПШЫ МАТЭРЫЯЛ:**

— актывізуе і яднае мясцовую грамаду;

— зразумелы мясцовым людзям, з пазнавальнымі імёнамі, фактамі і лічбамі;

— з прысутнасцю беларускай мовы (напрыклад, журналіст гаворыць па-беларуску, а ягоны суразмоўца — як можа).

**АЦЭНІЦЬ матэрыялы прафесійнае ЖУРЫ.**

1. Пераможцы ў намінацыях займеюць патрэбныя для працы рэчы (2 ноўтбукі, 2 відэакамеры).

2. Усе працы, што адпавядаюць умовам конкурсу, з'явяцца на партале narodny.by; найлепшыя з'явяцца ў друку, будуць прапанаваны незалежным мас-медыя.

3. Усе ўдзельнікі атрымаюць заахвочвальныя прызы і граматы, змогуць прыехаць у Мінск на сход-абмеркаванне.

**ЯК ПЕРАДАЦЬ**

Дасылайце матэрыял на narodny.zurnalist@gmail.com, праз кантактную форму на партале narodny.by ці звычайнай поштай на **а/с 24, 220002 г.Мінск**.

**Мультымедыйныя файлы:**

— да 25 МБ файл любога фармату (mpeg, avi, mp4, aac, mp3, wav, wmv) ці фатаграфіі (jpg, gif, tif, png) на narodny.zurnalist@gmail.com;

— больш за 25 МБ размясціць на сайтах YouTube, Vimeo і паслаць спасылку на narodny.zurnalist@gmail.com;

— паслаць дыск на паштовы адрас а/с 24, 220002 г.Мінск.

ВИЗИТ

## Перезагрузка

Заместитель министра иностранных дел Польши **Томаш Орловски** сегодня, 24 октября, приедет в Минск с рабочим визитом.

Планируется, что с польским коллегой проведет встречу заместитель министра иностранных дел Беларуси **Елена Купчина**.

После последних президентских выборов, прошедших в нашей стране, белорусско-польские отношения были фактически заморожены. Похоже, наступил этап перезагрузки. Напомним, что в августе этого года министр иностранных дел Беларуси **Владимир Макей** по приглашению польской стороны совершил рабочий визит в Польшу, где встретился с главой МИД Польши **Радославом Сикорским**. Министры высказались тогда за скорейшее мирное урегулирование кризиса в Украине. Также главы внешнеполитических ведомств двух стран договорились о продолжении контактов и проведении отдельной встречи по проблематике двусторонних отношений.

АФІЦЫЙНА

## Дзяржузнагарод аказалася мала

Палата прадстаўнікоў прыняла сёння ў першым чытанні законапраект аб папраўках у некаторыя законы па пытаннях удасканалення сістэмы дзяржузнагарод.

У прыватнасці, дакумент прадугледжвае ўвядзенне такіх узнагарод, як ордэн Працоўнай Славы, медаль "За выратаванае жыццё", а таксама ганаровых званняў "Народны ўрач Беларусі" і "Народны настаўнік Беларусі". Напрыклад, медаль "За выратаванае жыццё" будзе ўведзены для таго, каб размежаваць мужнасць і адвагу, якія маюць месца пры выкананні воінскага, службовага або грамадзянскага абавязку, з выратаваннем людзей на вадзе, у час стыхійных бедстваў, катастроф і г.д. Што тычыцца званняў народнага ўрача і народнага настаўніка, то іх будуць прысвойваць тым, хто мае стаж не менш як 20 гадоў і за 5 гадоў да гэтага ўжо атрымліваў званне заслужанага ўрача або заслужанага настаўніка.

Акрамя таго, КаАП дапаўняецца нормай, паводле якой устанаўліваецца адказнасць за незаконнае набыццё або збыт ордэна, медаля або нагруднага знака да ганаровага звання Беларусі або СССР. Больш за тое, за аналагічныя дзеянні на працягу года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання будзе прадугледжана ўжо крымінальная адказнасць.

ТОП-КАДР

# Фантан ідэй

## *Але хто скажа за іх дзякуй Анатолю Тозіку?*

Віцэ-прэм'ер Беларусі **Анатоль Тозік** агучыў чарговыя прапановы, накіраваныя на тое, каб "абараніць" дзяржаву ад людзей. Ён іх агучыў на нарадзе з удзелам **Аляксандра Лукашэнкі**, якая была прысвечана праблемам занятасці і міграцыі.

У прыватнасці, прапануецца павялічыць мінімальны працоўны стаж з выплатай абавязковых страхавых узносаў у фонд сацыяльнай абароны насельніцтва для прызначэння працоўных пенсій з 10 да 15 гадоў. Пры разліку пенсій прапануецца браць за аснову апошнія 20 гадоў стажу. Пры адсутнасці агульнага і страхавога стажу працы — павысіць узрост для звароту за сацыяльнай пенсіяй на пяць гадоў: да 60 гадоў для жанчын і 65 гадоў для мужчын; а магчыма, і ўсталяваць аднолькавы парог узросту ў 65 гадоў.

Паводле слоў Анатоля Тозіка, для тых, хто не плаціць падаходны падатак і адлічэнні ў фонд сацыяльнай абароны, варта было б вызначыць пералік мінімальнай дапамогі, якую ён можа атрымаць ад дзяржавы бясплатна.

### *Якімі яшчэ ініцыятывамі адзначыўся віцэ-прэм'ер Тозік?*

#### *1. Прапанаваў увесці ліміт на бясплатнае наведванне паліклінік і штраф за выклік "хуткай дапамогі".*

Вялікая загрузка паліклінік пачала турбаваць Анатоля Тозіка яшчэ ў 2012 годзе. Віцэ-прэм'ер угледзеў, што сярод тых, хто тоўпіцца ля ўрачэбных кабінетаў, больш за трэць — "уяўныя хворыя". Тады для вырашэння праблемы намеснік старшыні ўрада прапанаваў спаганяць з пацыентаў плату ў 5 тысяч за кожнае наведванне.

Яшчэ адна "рацыяналізатарская прапанова" — штрафаваць на 400 тысяч рублёў за лжывы выклік "хуткай".

#### *2. Павялічыў плату за дзіцячыя садкі.*

Некаторыя ідэі спадара Тозіка ў гэтай сферы нават рэалізаваны. Так, ён прапанаваў браць стопрацэнтную плату за харчаванне ў дзіцячых садках. Прапанова была агучана віцэ-прэм'ерам у лютым гэтага года, а ўжо ў красавіку была замацавана заканадаўча. Такім чынам, бацькі сталі плаціць за сад больш прыкладна на 150 тысяч рублёў у месяц.

Але гэта не ўсе ідэі Анатоля Тозіка наконт рэфармавання сістэмы дашкольнага выхавання. Віцэ-прэм'ер прапанаваў абмежаваць да 6 гадоў узрост знаходжання дзяцей у садках, калі на іншае няма адпаведных медыцынскіх паказанняў. Паводле яго слоў, гэта дазволіць дзяржаве сэканоміць каля 300 мільярдаў у год. У якасці альтэрнатывы для тых бацькоў, якія лічаць, што іх дзеці не гатовы ў шэсць гадоў ісці ў школу, Тозік прапанаваў стварыць платныя групы.

Ідэя штрафаваць бацькоў, чые дзеці не наведваюць дзіцячыя садкі без уважлівай прычыны, таксама належыць Анатолю Тозіку.

#### *3. Прыдумаў, як зняць з дзяржавы адказнасць за старых.*

На адным з пасяджэнняў калегіі Мінпрацы і сацабароны намеснік старшыні ўрада выказаў ідэю заканадаўча замацаваць за дзецьмі адказнасць перад сваімі састарэлымі бацькамі. Анатоль Тозік назваў адрасную сацыяльную дапамогу "дзяржаўнай дабрынёй", якую некаторыя выкарыстоўваюць у карыслівых мэтах, ператвараючыся ў сацыяльных утрыманцаў. Адна з прапаноў Тозіка заключалася ў тым, каб распрацаваць законапраект, які прадугледжваў бы матэрыяльную адказнасць дзяцей перад сваімі пажылымі бацькамі. Фактычна гэта павінен быў быць дакумент, аналагічны дэкрэту аб спагнанні грошай з бацькоў, чыіх дзяцей бярэ на выхаванне дзяржава.

#### *4. Знайшоў свой спосаб барацьбы з п'янствам.*

Менавіта Анатоль Тозік выступіў з ініцыятывай забараніць продаж спіртнога на аўтадарогах і канфіскоўваць машыны ў п'яных кіроўцаў за першы выпадак кіравання аўто ў нецвярозым стане, а не за паўторны. Прычым барацьбой з п'янствам за рулём Анатоль Тозік прапануе не абмяжоўвацца, ён лічыць, што трэба па ўсёй краіне забараніць продаж алкаголю з 21.00 да 10.00.

#### *5. Незалюбіў людзей з дыпломам.*

Анатоль Тозік не раз выказваў гатоўнасць пайсці сапраўдным фронтам супраць таго, каб у краіне было менш людзей з вышэйшай адукацыяй і больш рабочых. Ён прапаноўвае скараціць колькасць платных месцаў у ВНУ і значна павялічыць плату за навучанне. Тую акалічнасць, што плата за навучанне па некаторых спецыяльнасцях у Беларусі і так вышэй, чым у суседніх краінах, спадар Тозік дэманстратыўна не заўважае.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# Чаму сям'я Юрыя Захаранкі хадайнічае аб спыненні расследавання па справе аб яго знікненні?

*Сям'я бясследна зніклага ў маі 1999 года экс-міністра ўнутраных спраў Беларусі **Юрыя Захаранкі** накіравала хадайніцтва ў Следчы камітэт Беларусі, у якім просіць спыніць расследаванне па справе аб яго знікненні і выдаць усе дакументы для азнаямлення.*

У хадайніцтве на імя старшыні Следчага камітэта **Валянціна Шаева** маці Юрыя Захаранкі **Улляна Рыгораўна** і яе прадстаўнік **Алег Волчак** просяць паведаміць, на якіх падставах дагэтуль не прынята працэсуальнае рашэнне аб спыненні вытворчасці па крымінальнай справе па факце знікнення Юрыя Захаранкі.

— На падставе артыкула 29 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Беларусі мы прапаноўваем спыніць вытворчасць па крымінальнай справе і даць нам магчымасць азнаёміцца з матэрыяламі крымінальнай справы, — кажа Алег Волчак. — Гэта не мы самі прыдумалі, а такі закон — праз 15 гадоў спыняць расследаванне. І закон неабходна выконваць. Зараз мы чакаем адказ, але ёсць меркаванне, што справу будуць зацягваць.

**— Чаму?**

— Калі закрыць яе, то мы зможам азнаёміцца з дакументамі і ўбачыць, якія версіі адпрацоўваліся падчас следства, хто быў падазроным, чаму следства падаўжалася 15 гадоў і наколькі яно было эфектыўным і аб'ектыўным. Для ўлады, натуральна, лепш было б, каб гэтыя дакументы не сталі вядомымі для грамадскасці. Але ж за такі доўгі час расследавання можна было прыйсці да нейкіх вынікаў. Калі іх няма, то дайце хоць сям'і Захаранкі азнаёміцца з матэрыяламі справы.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КАДРЫ

# *Ігар РАЧКОЎСКІ: «І ў парусным спорце, і ў хакеі адна аснова — вада...»*

*На гэтым тыдні ў рэшце рэшт абралі новага старшыню Федэрацыі хакея Беларусі. Ім стаў першы віцэ-прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта генерал-маёр памежных войскаў Ігар Рачкоўскі.*

Доўгая гісторыя з абраннем кіраўніка хакейнай федэрацыі нагадвала серыял. Былы старшыня гэтай грамадскай арганізацыі **Яўген Ворсін** падаваў у адстаўку, а яе не прымалі. Затым на пасаду сваталі былога кідальніка молата **Вадзіма Дзевятоўскага**, але гэта выклікала "смех у зале" сярод многіх хакейных спецыялістаў. Сама справаздачна-выбарная канферэнцыя пераносілася некалькі разоў...



І вось кропкі расстаўлены. На канферэнцыі за **Ігара Рачкоўскага** аднадушна прагаласавалі ўсе 69 дэлегатаў. Нязгодных не было. Яго намеснікамі будуць старшыня праўлення ХК "Нёман" (Гродна) **Анатоль Варывончык**, генеральны менеджар ХК "Дынама-Мінск" **Уладзімір Беражкоў,** дырэктар Рэспубліканскага цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі "Раўбічы" **Андрэй Асташэвіч** і гендырэктар ХК "Юнацтва-Мінск" **Аляксей Пракаповіч**.

Дарэчы, калі журналісты пацікавіліся ў абранага старшыні, ці дапаможа яму на новай пасадзе вопыт работы кіраўніком Федэрацыі паруснага спорту, той адказаў даволі арыгінальна: *"Парус і хакей вельмі блізкія. У іх адна аснова — вада. У адным выпадку — вадкая, у другім — у замарожаным стане. Адно другому не перашкаджае".*

І ўжо зусім павесяліў народ, калі запыталіся пра ўзаемаадносіны з новым галоўным трэнерам зборнай **Уладзімірам Крыкуновым.** Ці не будзе непаразуменняў?

*"Спытайце ў Уладзіміра Васільевіча, якое ў яго званне*, — адказаў Рачкоўскі. — *Маёр памежных войскаў. Якія могуць быць непаразуменні ў маёра з генерал-маёрам памежных войскаў?"*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

КАКИЕ РЕФОРМЫ НУЖНЫ БЕЛАРУСИ?

# Угроза для НПЗ: модернизация может обернуться разорением

## *Спасет ли российская компенсация за налоговый маневр белорусских нефтепереработчиков?*

### Пиррова победа

Официальный Минск воспринял договоренности с Россией о зачислении в белорусский бюджет всех пошлин от экспорта нефтепродуктов как убедительную победу в торге с Кремлем.

— Мы считаем, что ситуация разрешилась, премьер-министру Беларуси удалось зафиксировать те договоренности, которые полностью нивелируют влияние налогового маневра на экономику Беларуси, — так оценил достигнутые соглашения председатель правления ОАО "Банк развития Республики Беларусь", член Совета ЕЭК **Сергей Румас**.

С учетом проведения в России налогового маневра предполагается, что в бюджет нашей страны поступит экспортных пошлин на 2,5 млрд долларов. Цена, которую Кремль заплатил за подпись Беларуси под документами о создании ЕАЭС, оказалась даже больше, чем ожидал официальный Минск. Ранее Александр Лукашенко заявлял, что потери Беларуси от налогового маневра России могут превысить 1 млрд долларов.

— В среднесрочной и долгосрочной перспективе Москва постарается вернуть эти деньги, поэтому рано или поздно встанет вопрос об увеличении российской доли в белорусских нефтеперерабатывающих заводах, — отмечает аналитик Белорусского института стратегических исследований (BISS) **Андрей Елисеев**.

### НПЗ в загоне

Белорусским нефтеперерабатывающим заводам (НПЗ) до 2017 года необходимо завершить модернизацию. А это очень сложная задача, поскольку условия их деятельности заметно ухудшились. Дело в том, что с 2015 года российская нефть для переработчиков будет дорожать. По оценкам экспертов, стоимость нефти для белорусских НПЗ возрастет примерно на 100 долларов. Уменьшится прибыль заводов, им труднее будет найти ресурсы на модернизацию.

— Рост цены нефти — это очень существенный фактор, — отмечает эксперт энергетического рынка, обозреватель газеты "Белорусы и рынок" **Татьяна Маненок**. — К тому же наши нефтеперерабатывающие заводы, в первую очередь "Нафтан", несут тяжелую ношу перекрестного субсидирования, поставляя по корпоративным ценам, которые гораздо ниже мировых, сырье для "Полимира" и могилевского "Химволокна".

По экспертным оценкам, "Нафтану" это обходится в сумму порядка 12 млн евро в месяц.

— Уже в этом году заводам тяжело обслуживать кредиты, которые они взяли на модернизацию, — объясняет Татьяна Маненок. — Ведь на модернизацию идут не только собственные средства предприятий, но и достаточно крупные кредиты, которые сегодня недешевы. У того же "Нафтана" с учетом нагрузки с перекрестным субсидированием рентабельность сегодня чуть выше нуля. На Мозырском НПЗ ситуация несколько лучше, но и там рентабельность немногим выше 10%, — отмечает эксперт.

Не спасет белорусских нефтепереработчиков и снижение мировых цен на нефть. Хотя, казалось бы, можно тратить меньше на покупку сырой нефти. Однако вместе с ценой на нефть падает и цена бензина, дизтоплива, мазута и других нефтепродуктов. А Беларусь экспортирует порядка 70% продуктов нефтепереработки. Поэтому падение цен на нефть тоже может ударить по белорусским НПЗ.

### Урезать акцизы!

Татьяна Маненок считает, что белорусскому правительству необходимо думать о мерах по поддержке нефтеперерабатывающей отрасли.

— Средств в бюджете не хватает, да и следующий год будет тяжелым в свете выплат по внешнему долгу. Поэтому важно, чтобы полученные в качестве компенсации российского налогового маневра средства не растворились в бюджете, а дошли до белорусских НПЗ. Ведь нефтепродукты обеспечивают более трети валютных поступлений, — отмечает аналитик.

По ее мнению, лучший вариант помощи НПЗ — снижение акцизов на нефтепродукты. Хуже всего, если государство выдаст субсидии для заводов, тогда не будет стимулов работать эффективнее.

Впрочем, акцизы являются существенной статьей доходов бюджета. Хотя, по мнению Татьяны Маненок, резервы для их снижения все же есть.

— Возможно, белорусское правительство и разрабатывает какие-либо программы поддержки нефтеперерабатывающей отрасли. Но они пока нигде не озвучивались, — отмечает эксперт. — Правительству нужно определяться с формой поддержки наших НПЗ и минимизировать их издержки, связанные с перекрестным субсидированием.

### Опасный маневр

Беларусь и Россия продолжат переговоры по налоговому маневру в начале 2015 года.

—- Поэтому нет ясности, что будет через несколько лет, когда российский маневр будет реализовываться и маржа наших НПЗ еще больше снизится, — говорит Андрей Елисеев.

В самой России не все в восторге от планируемого налогового маневра. Часть экспертов полагает, что это может сильно ударить по деятельности нефтеперерабатывающих предприятий и даже привести к банкротству небольших НПЗ. Увеличение ставок незамедлительно повысит стоимость нефти и топлива на внутреннем рынке. Российским регионам нужно готовиться к уменьшению отчислений в местные бюджеты.

Сами нефтяники высказываются критично о нововведениях в налоговое законодательство. Так, глава компании "ЛУКОЙЛ" **Вагит Алекперов** считает, что реформа приведет лишь к увеличению налоговой нагрузки на топливно-энергетический комплекс. А основная цель маневра — развитие собственной российской нефтепереработки — не будет достигнута.

Поэтому эксперты не исключают, что и в самой России налоговый маневр вполне может дорабатываться и видоизменяться.

Пока трудно прогнозировать, в каких условиях Беларусь и Россия будут договариваться о пошлинах, компенсациях и поставках нефти в 2016 году и позже.

В то же время, как отмечает Татьяна Маненок, нет ощущения, что Россия стремится "положить на лопатки" белорусскую нефтеперерабатывающую промышленность. Ведь поставки белорусского бензина могут помочь стабилизировать российский рынок в условиях все того же налогового маневра.

Учитывая тотальную зависимость Беларуси от России в сфере энергоносителей, для отечественной нефтянки альтернатив нет. Не исключено, что подпись Беларуси под созданием ЕАЭС повлечет за собой необходимость делиться собственностью и, в частности, нефтеперерабатывающими заводами.

**Николай АНИЩУК.**

ВІНШУЕМ!

# *«За вялікую падзвіжніцкую працу...»*

*__Валерый Стралко__ стаў лаўрэатам міжнароднай літаратурна-мастацкай прэміі імя Рыгора Скаварады.*

Гэтай прэміяй Украінскі фонд культуры ўганараваў вядомага беларускага перакладчыка *"за вялікую падзвіжніцкую працу дзеля збліжэння ўкраінскай і беларускай літаратур".* Прэмія носіць імя Рыгора Скаварады — славутага ўкраінскага паэта, драматурга, філосафа, вандроўніка і педагога XVIII стагоддзя.

19 снежня сябру Саюза беларускіх пісьменнікаў, Беларускага ПЭН-цэнтра і Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны, лаўрэату Міжнароднай літаратурнай прэміі імя Івана Франко і Літаратурнай прэміі імя Кандрата Крапівы Валерыю Стралко спаўніцца 75 гадоў.

Сярод выданых ім кніг перакладаў — "Непагасны агонь" (творы класікаў беларускай і ўкраінскай паэзіі на дзвюх мовах), "Тарас на Парнасе" (пераклад з беларускай на ўкраінскую мову), "Мелодыі журбы і надзеі" (у калектыўным зборніку пераклад з украінскай на беларускую мову твораў Лесі Украінкі), паэма Якуба Коласа "Новая зямля" (пераклад з беларускай на ўкраінскую), зборнік паэзіі Алеся Пісьмянкова "Любить би вічно..." (пераклад з беларускай на ўкраінскую мову), раман-хроніка Алеся Пашкевіча "Майдан Волі" (пераклад з беларускай на ўкраінскую мову), ілюстраваны зборнік "Трыяда славянскай паэзіі" (творы класікаў беларускай, рускай і ўкраінскай літаратур на трох мовах), аповесць Васіля Быкава "Круглянскі мост" (пераклад з беларускай на ўкраінскую мову).

Апроч таго, Валерый Стралко пераклаў на ўкраінскую мову п'есу беларускага драматурга Алеся Петрашкевіча "Арліны палёт", прысвечаную ўраджэнцу Беларусі гетману Украіны, аўтару першай яе канстытуцыі Піліпу Орліку і яго сыну Рыгору.

Дарэчы, прэміяй імя Рыгора Скаварады ў свой час былі ўганараваны беларускія літаратары Сяргей Законнікаў і Ніна Мацяш.

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Галоўнаму следчаму Мінска падкінулі патроны?

## *Акруговая пракуратура Вільнюса спыніла дасудовае расследаванне ў дачыненні да начальніка Следчага камітэта па Мінску __Дзмітрыя Канапляніка__.*

Нагадаем, што **Дзмітрый Канаплянік** быў затрыманы літоўскімі мытнікамі 23 верасня за перавозку праз мяжу патронаў да агнястрэльнай зброі.

*"Тэрытарыяльная мытня Мядзінінкая на трасе, якая вядзе ў Беларусь, затрымала аўтамабіль Honda CR-V, зарэгістраваны ў Беларусі, у якім пасля праверкі было выяўлена некалькі дзясяткаў 9-міліметровых патронаў "Luger". На гэтым аўтамабілі вярталася з Літвы пара сярэдніх гадоў, грамадзяне Рэспублікі Беларусь"*, — гаварылася ў паведамленні літоўскага боку.



Гэтай самай парай і аказаліся кіраўнік Следчага камітэта па Мінску **Дзмітрый Канаплянік** і яго жонка.

Абодва засталіся ў Літве (жонку літоўцы адпусцілі ў Беларусь два тыдні таму), пачалося расследаванне. Версіі існавалі самыя розныя: ад таго, што патроны Канапляніку падарылі літоўскія калегі, да магчымай помсты следчаму.

На пачатку кастрычніка Следчы камітэт Беларусі заявіў аб незалежнай праверцы беларускім бокам абставін справы ў межах сваёй кампетэнцыі. І ў выніку следчыя агучылі сваю версію *"аб здзяйсненні кампраметуючых дзеянняў у адносінах да іх з боку трэціх асоб, у тым ліку ў сувязі з прафесійнай дзейнасцю Канапляніка з помсты ці па іншых матывах".*

Падчас праверкі беларускія следчыя сыходзілі з таго, што літоўскім мытнікам, магчыма, паступіў сігнал аб наяўнасці ў машыне начальніка Следчага камітэта па Мінску кантрабанды, бо нагляд аўтамабіля на мяжы быў паглыблены.

Таксама яны звярнулі ўвагу на той факт, што напярэдадні ноччу ў машыне Канапляніка, якая знаходзілася на стаянцы ля гатэля, спрацавала сігналізацыя.

Праведзены агляд аналагічнага аўтамабіля паказаў, што схаваць нейкі прадмет пад днішчам машыны (як у выпадку з Канаплянікам) не з'яўляецца складаным і гэта можна зрабіць літаральна за хвіліну без ускрыцця салона.

І вось на гэтым тыдні Дзмітрый Канаплянік вярнуўся ў Беларусь і пачаў выконваць свае службовыя абавязкі.

*"Паводле вынікаў праведзенага на працягу месяца праваахоўнымі органамі Літоўскай Рэспублікі разгляду па факце выяўлення патронаў у аўтамабілі начальніка УСК па г.Мінску акруговай пракуратурай г.Вільнюса прынята рашэнне аб спыненні дасудовага расследавання ў дачыненні да яго і яго жонкі"*, — паведамляецца на сайце Следчага камітэта.

Сам Канаплянік пакуль не каментуе скандальную гісторыю, у якую патрапіў, а вось у Генеральнай пракуратуры Літвы "Народнай Волі" яе пракаментавалі.

— Спынена толькі справа ў адносінах да грамадзян Беларусі, — распавяла спецыяліст па камунікацыях літоўскай Генпракуратуры **Рыта Стундзене**. — Аднак расследаванне працягваецца. Высвятляюцца абставіны здарэння, ідзе высвятленне таго, хто мог здзейсніць злачынства.

**— Паводле адной з версій, Канапляніку маглі падкінуць патроны...**

— Ніякія версіі мы агучваць пакуль не можам.

**— Аднак можна сказаць, што начальнік Следчага камітэта па Мінску невінаваты?**

— Так.

**Алесь СІВЫ.**

ЗДЗЕЛКА

# *«Панчохі» адышлі сям'і Байко*

*Фірма "Контэ Спа" завяршыла здзелку па куплі долі ў ААТ "Брэсцкі панчошны камбінат", якая раней належала дзяржаве. Такім чынам, кантрольны пакет акцый брэсцкага прадпрыемства перайшоў у прыватныя рукі.*

СТАА "Контэ Спа" ў адпаведнасці з дамовай куплі-продажу пералічыла за акцыі 39 мільярдаў рублёў. Такім чынам, здзелка завершана. Праўда, права распараджацца акцыямі абмежаванае — да таго часу, пакуль не будуць выкананы ўсе абавязацельствы па дамове куплі-продажу.

Згодна з умовамі, на працягу трох гадоў новы гаспадар павінен інвеставаць у прадпрыемства не менш за 5 мільёнаў долараў. Таксама прадугледжваецца, што інвестыцыі павінны быць накіраваны і на забеспячэнне экспарту прадукцыі прадпрыемства на суму не менш як 7 мільёнаў долараў. Акрамя таго, частка сродкаў павінна пайсці на захаванне сацыяльных гарантый работнікам прадпрыемства.

**Да ведама.** Кампанія "Контэ Спа" (Conte Spa) створана ў 1997 годзе ў Гродне. Спецыялізуецца на вытворчасці панчошна-шкарпэтачнай прадукцыі і трыкатажу для жанчын, мужчын і дзяцей. Дарэчы, "Conte" ў перакладзе з французскага — казка. Для былога настаўніка Валянціна Байко панчошна-шкарпэтачны бізнес сапраўды стаў казачным.

СІТУАЦЫЯ

## Шчоўкнуць рубільнікам

*У даўжнікоў, якія не плацяць за "камуналку" больш за 2 месяцы, адключаць святло. Зрабіць гэта трэба да 5 лістапада.*

Такое даручэнне жыллёвым арганізацыям даў на пасяджэнні гарадскога штаба першы намеснік старшыні Мінгарвыканкама **Уладзімір Кухараў.** Ён таксама запатрабаваў размяшчаць у жыроўках адпаведнае папярэджанне.

Па стане на 1 кастрычніка 26.616 асабовых рахункаў у Мінску маюць пратэрмінаваную запазычанасць больш за 8 мільярдаў рублёў. Пераважная большасць даўжнікоў — 22.658, або 85% ад агульнай колькасці, — не плацяць за камунальныя паслугі менш за 2 месяцы. Ад іх камунальнікі недаатрымалі больш за 4,5 мільярда рублёў.

Сем'яў, якія ігнаруюць жыроўкі на працягу больш як тры гады, у сталіцы налічылі 67 (0,3% ад усіх неплацельшчыкаў). Іх сумарны доўг складае амаль 410 мільёнаў рублёў.

Ясна, што змагацца з неплацельшчыкамі трэба. Але ці законна гэта — вырубаць святло, калі не аплачаны паслугі ЖКГ? "Мінскэнерга" і ЖЭСы — гэта ж зусім розныя структуры. У чалавека можа быць доўг за кватэру, але аплачаная электраэнергія... Дык на якой падставе энергетыкі будуць адключаць святло?

Падаецца, што спадар Кухараў, аддаючы загад, не параіўся з юрыстамі.

НУ І НУ!

## Дзіўны погляд на тэатр міністра Святлова

*Дырэктарам тэатра імя Коласа ў Віцебску прызначаны былы чыноўнік "Белшыны". **Аляксандр Старых** раней займаў пасаду намесніка генеральнага дырэктара бабруйскага прадпрыемства па сацыяльных пытаннях.*

Аб нечаканым прызначэнні паведаміў журналістам міністр культуры **Барыс Святлоў** пасля пасяджэння аргкамітэта XXVII Міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі ў Віцебску. Ён жа на закрытай сустрэчы прадставіў новага кіраўніка калектыву тэатра.

*"У апошні час ва ўстановах культуры адбываецца падзел дырэктарскага і мастацкага карпусоў. Коласаўскі тэатр быў адным з апошніх астраўкоў, дзе менеджмент з мастацкім кіраўніцтвам сумяшчаў адзін чалавек — **Валерый Анісенка**. Надышоў момант перамен, установа выходзіць на іншыя задачы, для чаго неабходны пісьменны арганізатар тэатральнага працэсу",* — растлумачыў Барыс Святлоў.

Паводле слоў міністра, ён свядома выбірае на кіруючыя пасады людзей з вопытам арганізацыйнай працы і высокімі камунікацыйнымі здольнасцямі.

ОФИЦИАЛЬНО

## Не сидите дома

*Более 20 дополнительных поездов будет курсировать по Белорусской железной дороге в ноябре. Как сообщили в пресс-центре БЖД, таким образом обеспечиваются перевозки пассажиров в период школьных каникул, а также в ноябрьские выходные и праздничные дни ноября.*

Дополнительные поезда назначены как в пределах Беларуси, так и в международном сообщении.

В том числе 3 ноября будет курсировать дополнительный поезд №688 Брест—Могилев, 6 ноября — поезда №667 Минск—Брест, №672 Минск—Гомель, №638 Минск—Гомель, №637 Гомель—Минск, №693 Полоцк—Минск, №694 Минск—Полоцк; 7 ноября — поезда №666 Брест—Минск, №671 Гомель—Минск, №638 Минск—Гомель, №637 Гомель—Минск.

В международном сообщении дополнительные поезда назначены по маршруту Брест—Москва—Брест.

РАЗМОВА НА ТРАІХ

# Куды ні пайдзі — там граблі ляжаць

*Самая дыскутуемая тэма ў апазіцыйным асяродку — якую стратэгію абраць апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года. У офісе Аб'яднанай грамадзянскай партыі сабраліся старшыня партыі **Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА,** член Экспертнай рады АГП **Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ** і палітолаг **Юрась ЧАВУСАЎ,** каб таксама абмеркаваць гэтую гарачую тэму.*

**Анатоль Лябедзька:**

— Давайце паспрабуем спрагназаваць, як могуць развівацца падзеі перад і падчас будучай прэзідэнцкай кампаніі? Ваш прагноз, Аляксандр.

**Аляксандр Дабравольскі:**

— Цяжка прагназаваць. Такая зараз сітуацыя вакол Беларусі і ў Беларусі, што ўсё залежыць, на жаль, не ад Беларусі і не ад беларускага народа. Мы ведаем, што выбараў няма, мы ведаем, як будзе дзейнічаць улада, — вось гэта можна прагназаваць.

Асноўная мэта ўлады — гэта самазахаванне. Аляксандр Лукашэнка хоча застацца прэзідэнтам. Думаю, што і на гэты раз не дойдзе да нейкага пераемніка — і гэта можна дакладна прагназаваць. А як будзе развівацца сітуацыя ў сувязі з канфліктам, напрыклад, паміж Расіяй і Украінай, сказаць цяжка. Адзінае, што яшчэ магу адзначыць: пакуль беларускія грамадзяне не гатовы адстаяць нейкія свае правы, у прыватнасці права на выбар.



Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА.

**Анатоль Лябедзька:**

— І ўсё ж такі што можа быць новага ў параўнанні з папярэднімі прэзідэнцкімі выбарамі 2006-га і 2010 гадоў?

**Юрась Чавусаў:**

— Магу толькі пагадзіцца са спадаром Дабравольскім: у гэтай прэзідэнцкай кампаніі ёсць адзінае вядомае — гэта сцэнарый улад. Сцэнарый кантраляваны, які абапіраецца на механізм дасягнення патрэбнага выніку, які пабудаваны цягам мінулых выбарчых кампаній.

А вось у суадносінах прапагандысцкага і рэпрэсіўнага складнікаў могуць быць нюансы. То бок можна дыскутаваць, будзе гэтая кампанія такой жа жорсткай, як, напрыклад, фінал кампаніі 2010 года, ці яна будзе больш мяккай. Але вядома, што той механізм выбараў, які ў Беларусі пабудаваны, ён арыентаваны на забеспячэнне перамогі толькі аднаго кандыдата, незалежна ад таго, як прагаласуюць выбаршчыкі. І з гэтага трэба сыходзіць, распрацоўваючы нейкія альтэрнатыўныя сцэнарыі.

**Анатоль Лябедзька:**

— Гэта азначае, што пакуль не зменіцца выбарчае заканадаўства — умовы правядзення выбараў не зменяцца?

**Юрась Чавусаў:**

— Яны стануць яшчэ горшымі. Таму што на гэтых прэзідэнцкіх выбарах, напрыклад, ужо не будзе дзяржаўнага фінансавання для кандыдатаў. І я прагназую, што гэта паўплывае на іх колькасць: не будзе ўжо самавылучэнцаў, якія разлічвалі на сродкі з бюджэту, што выдзяляліся ЦВК, і ішлі на выбары толькі дзеля таго, как сябе папіярыць.

**Аляксандр Дабравольскі:**

— Я хацеў бы працягнуць тэму, якую ўзняў Юрась. Справа ў тым, што (можа, хто не ведае) тыя дзяржаўныя грошы, якія выдзяляліся кандыдатам, былі смешнымі, на іх ніякую сур'ёзную кампанію правесці было немагчыма, але зараз і гэтага не дадуць. Таму ў 2015 годзе перавагу будзе мець толькі той кандыдат, які зможа мабілізаваць усе рэсурсы дзяржавы — і гэта адзін кандыдат, якога ўсе ведаюць.

Што можа паўплываць? Па-першае, можа паўплываць фінансава-эканамічная сітуацыя ў Беларусі. Першы раз мы падыходзім да прэзідэнцкай кампаніі, калі здаецца, што ніякай фінансавай падушкі бяспекі ўлада не мае. Больш за тое, эканамічны крызіс можа прывесці да таго, што адбудзецца дэвальвацыя рубля — якраз у гэты год перад выбарамі.

Больш за тое, Расія зараз занята сваімі праблемамі: супраць яе ўводзяцца і будуць уводзіцца санкцыі, кошт нафты падае, расійскі рубель абясцэньваецца... Наўрад ці яна (на фоне таго, што ёсць свае праблемы) знойдзе вялікія фінансы на падтрымку Беларусі.

Могуць паўплываць і яшчэ нейкія знешнія фактары, але хачу сказаць адно: унутраныя фактары наўрад ці паўплываюць на вынік выбараў, бо ўлада зрабіла ўсё, каб у нашай краіне пераможцам мог стаць толькі кандыдат ад улады.

**Юрась Чавусаў:**

— Спадар Дабравольскі, але заўважым, што гэтыя знешнія фактары неабавязкова паўплываюць на карысць дэмакратычнай апазіцыі...

**Аляксандр Дабравольскі:**

— Абсалютна не абавязкова.

**Юрась Чавусаў:**

— Нават пры ўмове кепскага эканамічнага становішча, тое, што адбываецца вакол Украіны, расійска-украінскі канфлікт, можа стварыць выгадны фон для кандыдата, які ўвасабляе сабой стабільнасць нават у горшым сэнсе. Бо ў добрым сэнсе гэта азначае, што ў Беларусі не страляюць, не падаюць пасажырскія "Боінгі"... А тое, што пры гэтым эканоміка развальваецца і няма будучыні для беларускай народнай гаспадаркі, — гэта ўжо нібы і дробязь.

**Анатоль Лябедзька:**

— І ўсё ж такі давайце паспрабуем узважыць, што для нашых людзей будзе больш важным: стабільнасць — тое, што не падаюць "Боінгі", ці ўсё ж такі — адкрыў лядоўню, а там мыш памерла?.. Многія ж у нашай краіне сёння вельмі цяжка выжываюць...

**Аляксандр Дабравольскі:**

— Пакуль страх таго, што не будзе бяспекі, больш моцны, чым страх, што не будзе чаго есці. І таму сітуацыя ў Беларусі выглядае больш прывабна, чым сітуацыя ва Украіне.

Мне здаецца, што самае галоўнае, што наўрад ці нейкія знешнія фактары дадуць новыя магчымасці беларускай апазіцыі. Яны могуць даць новыя магчымасці для грамадзян, але апазіцыя зараз у такім стане, што яе высілкаў, яе намаганняў абсалютна не дастаткова, каб штосьці змяніць. Усё можа быць зменена ў нашай краіне толькі тады, калі гэтага сапраўды захочуць людзі. І пакуль што не бычу жадання адарвацца ад канапы і зрабіць нешта для сябе, для сваёй краіны.

**Юрась Чавусаў:**

— А дзеля чаго тады апазіцыя ідзе на выбары?

**Аляксандр Дабравольскі:**

— Апазіцыя, як тыя дысідэнты, можа працаваць толькі так: рабі, што трэба, і няхай будзе тое, што будзе. Вось па такім прынцыпе апазіцыя зараз і працуе.

**Анатоль Лябедзька:**

— Давайце ўсё ж такі вернемся да знешніх фактараў. Наколькі прэзідэнцкая кампанія ў Беларусі будзе цікавай для міжнародных гульцоў: для Расіі, для Еўрапейскага Саюза? Ці стаіць у іх на парадку дня беларускае пытанне?

**Юрась Чавусаў:**

— Па вялікім рахунку Беларусь нават у рэгіянальным кантэксце апусцілася ў спісе прыярытэтаў таго ж Еўрасаюза ці Злучаных Штатаў... Зноў-такі ў сувязі з украінскімі падзеямі.

Што датычыцца расійскіх прыярытэтаў, то я не думаю, што Расія будзе хоць нейкім чынам зацікаўлена ўплываць на пераразмеркаванне ўлады тут, у нас, падчас прэзідэнцкіх выбараў. Расія навучылася дасягаць сваіх мэт з дзеючым беларускім прэзідэнтам і, нават калі ён неяк супраціўляецца, мае магчымасць яго прымусіць.

У гэтай сітуацыі апазіцыя можа ісці на выбары. Я не буду ўжываць тэрміны "дысідэнт — не дысідэнт"... Але з якой мэтай? Што яна зможа?

На прэзідэнцкіх выбарах апазіцыя можа размаўляць з вялікім колам насельніцтва — у адрозненне ад міжвыбарнага перыяду. І досвед мінулых кампаній паказвае, што гэта адначасова і мінімум, і максімум таго, чаго магчыма дасягнуць падчас прэзідэнцкай кампаніі. Вось я прыгадваю 2001 год, калі адной з асноўных мэт кандыдата — адзінага кандыдата ад дэмакратычных сіл спадара Ганчарыка — была тэма палітычных знікненняў. І не будзем забывацца, што, нягледзячы на тое, што Ганчарык прайграў (хаця, паводле дадзеных сацыялогіі, ён дасягнуў вышэйшага ўзроўню падтрымкі з усіх апазіцыйных кандыдатаў на ўсіх выбарах), пасля гэтага палітычныя знікненні ў нашай краіне спыніліся. Гэта сведчыць, што меседж Ганчарыка быў пачуты грамадствам і грамадства зразумела, што адбываецца нешта нецывілізаванае, страшнае.

**Анатоль Лябедзька:**

— І ўладай быў пачуты?

**Юрась Чавусаў:**

— Улады гэта і так ведалі. Скажам так, мелі дачыненне.

**Анатоль Лябедзька:**

— Знікненні спыніліся, але пачаліся іншыя рэпрэсіі.

**Юрась Чавусаў:**

— Стаўленне грамадства да гэтай тэмы было негатыўнае, і негатыўнае ў дачыненні да ўлады. То бок беларускае грамадства (нават тая частка, якая падтрымлівае дзеючага прэзідэнта) не прызнае як метад палітычнай барацьбы фізічную ліквідацыю палітычных праціўнікаў. І гэта спрацавала, апазіцыя тады дамаглася змянення, так бы мовіць, "правілаў гульні".

**Анатоль Лябедзька:**

— Да апазіцыі мы яшчэ вернемся. А пакуль давайце паспрабуем адказаць вось на якое пытанне: Аляксандр Лукашэнка — гэта кандыдат Расіі, ці Крэмль усё ж такі паспрабуе за вусы яго патузаць, прымусіць панервавацца, каб ведаў сваё месца? Наколькі ўпэўнена і камфортна адчувае сябе "галоўны кандыдат"?



Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ.

**Аляксандр Дабравольскі:**

— Камфортнага, я лічу, у Лукашэнкі няма. У першую чаргу з-за эканамічных праблем у самой Беларусі. Па-другое, у Расіі (паўтаруся) зараз шмат сваіх праблем і шмат месцаў, куды яна павінна патраціць свае грошы. То бок шмат грошай Лукашэнка не атрымае.

Падціснуць яго трохі — на гэта яны здольныя, добра ведаючы, што нікуды ён не дзенецца, бо цывілізаваны свет зноў не прызнае такую выбарчаю кампанію справядлівай і законнай. І ўсё ж пагаджуся са спадаром Чавусавым: істотнага ўплыву Расія на гэтую кампанію не акажа, таму што яна і так атрымае сваё. Пабачым, можа быць, штосьці зменіцца, але Расія думае, што яна і так атрымае сваё.

**Анатоль Лябедзька:**

— Ці ёсць сэнс у тым, каб у гэтай кампаніі з'явілася нейкая асоба, што паспрабуе разыграць расійскую карту? Ну вось генерал Валерый Фралоў, напрыклад, заяўляе пра нейкія свае амбіцыі... І наколькі гэта можа спрацаваць?

**Юрась Чавусаў:**

— Практычна на ўсіх выбарчых кампаніях прэзідэнцкага ўзроўню ў Беларусі з'яўляюцца кандыдаты, якія спрабуюць прадставіць сябе як "кандыдата, падтрыманага Крамлём". І не выключаю, што некаторыя не хлусяць, бо вядома прымаўка: "У Крамлі шмат вежаў". Калі некаму нешта там, у Крамлі, хто паабяцаў, то гэта гульня адной пешкай... Я лічу, што гэтыя спробы рабіцца будуць.

**Анатоль Лябедзька:**

— Але гэта больш піяр, чым рэальны сцэнарый?

**Юрась Чавусаў:**

— Яны могуць быць дастаткова гучныя, але гэта спробы ў межах таго сцэнарыя, які ў Беларусі ёсць, які напісаны. Кантраляваная выбарчая кампанія, у якой апазіцыі даюць магчымасць нешта сказаць, выступіць у ролі такога "городского сумасшедшего". І права апазіцыі абіраць, што казаць людзям: ці пра небяспеку расійскай экспансіі, ці пра неабходнасць структурных рэформаў у эканоміцы... Будуць кандыдаты, якія выступяць як прарасійскія, але наўрад ці сярод іх апынецца кандыдат, сапраўды падтрыманы Крамлём.

**Анатоль Лябедзька:**

— Юрась ужо пачаў гаварыць, што нейкае моцнае пасланне можа быць пачута і грамадзянскай супольнасцю, і выбаршчыкамі, і ўладай. І тады будзе надзея на нейкія змены. Дзеля якіх змен можа быць выкарыстана будучая кампанія?

**Аляксандр Дабравольскі:**

— Я думаю, вельмі важная рэч — гэта пагроза для незалежнасці Беларусі. Пры ўсім тым, што нашы людзі шмат у чым падтрымлівалі дзеючую ўладу, яны ўсё ж прызвычаіліся да таго, што Беларусь — гэта незалежная дзяржава. І тое, што зараз нават наша ўлада, нават Аляксандр Лукашэнка вельмі напалоханы дзеяннямі Расіі супраць Украіны, — гэта значыць, што няма мяжы "ўводу войск". Няма яе і ў адносінах да Беларусі. Я думаю, што беларускія людзі могуць задумацца над гэтым.

**Анатоль Лябедзька:**

— Гэта тэма бяспекі для Беларусі і бяспекі для грамадзян?

**Аляксандр Дабравольскі:**

— Абсалютна. Бяспека і незалежнасць. Незалежнасць стала ўжо каштоўнасцю ў Беларусі. Пры тым нават, што мы жывём у расійскай інфармацыйнай прасторы, якую фарміруюць расійскія сродкі масавай інфармацыі. На сваю карысць, зразумела...

**Анатоль Лябедзька:**

— Юрый, што яшчэ можа быць у пасланні?

**Юрась Чавусаў:**

— Я сказаў бы так: сэнс у адзіным пасланні ёсць тады, калі ёсць адзіная стратэгія. Можа быць некалькі кандыдатаў, але паміж імі павінна быць адзіная стратэгія, абраны нейкі падыход. Калі ж паўторыцца сітуацыя 2010 года — россып кандыдатаў з няўзгодненымі кампаніямі, тады моцнага меседжа не атрымаецца. Бо кандыдаты будуць імкнуцца не толькі адпазіцыянавацца ад дзеючай улады, але і адзін ад аднаго. Меседжаў будзе больш, але яны будуць слабыя.

**Анатоль Лябедзька:**

— Але на пачатку размовы мы прыйшлі да высновы, што такой колькасці кандыдатаў ужо не будзе...

**Юрась Чавусаў:**

— Не будзе дзесяць, але можа быць пяць...

**Анатоль Лябедзька:**

— Тады я з вамі паспрачаюся. Кампанія 2010 года, з майго пункту гледжання, была самай дынамічнай. І яна мабілізавала найбольшую колькасць людзей, якія рэальна працавалі супраць дзеючай улады.

**Юрась Чавусаў:**

— Спадар Анатоль, людзей працавала, можа, і больш, але іх сукупныя дасягненні аказаліся меншымі, чым калі працавала менш людзей, менш актывістаў. Умоўна кажучы, калі ля Камароўкі стаялі пяць пікетаў, яны збіралі кожны па адным подпісе ад адных і тых жа выбаршчыкаў. То бок подпісаў больш, але выбаршчыкаў, што падтрымліваюць апазіцыю, не пабалела.

**Анатоль Лябедзька:**

— Прапанова Аляксандра — ісці на выбары, каб прыцягнуць увагу беларусаў да праблем бяспекі. Што яшчэ?

**Юрась Чавусаў:**

— Разумееце, мы не знаходзімся ў сітуацыі канкурэнцыі за галасы выбаршчыкаў, і калі апазіцыя імкнецца...

**Анатоль Лябедзька:**

— Чаму не за галасы? Таму што іх не лічаць?

**Юрась Чавусаў:**

— Каб канкурыраваць за галасы, трэба з сябрамі камісій працаваць, каб яны нарэшце слушна іх падлічвалі. Сёння апазіцыя не знаходзіцца ў сітуацыі канкурэнцыі за галасы выбаршчыкаў, звычайнай для электаральнай кампаніі патрэбы спадабацца, знайсці нешта такое, што, можа быць, і не адпавядае тваёй палітычнай стратэгіі, але будзе падтрымана выбаршчыкамі.

А калі гэтага няма, то для апазіцыі самае важнае — быць шчырай. І шчыра казаць пра тое, чаго яна хоча. Хоча абараніць незалежнасць і бяспеку гэтай краіны як незалежнай дзяржавы? Калі гэта слушна, калі гэта сапраўды адпавядае ідэалогіі партыіі, кандыдата, руху — трэба казаць. Калі галоўнае для партыі ці руху — эканамічныя рэформы, то пра гэта трэба казаць. Трэба казаць рэчы, якія прынцыпова адпавядаюць ідэалагічнаму падмурку той ці іншай групы апазіцыі. А імкненне спадабацца выбаршчыку, які прыйшоў на ўчастак і пабачыў прыгожы партрэт кандыдата, упадабаў ягоныя абяцанкі-цацанкі, — гэта ў нашай сітуацыі неэфектыўная стратэгія.

**Анатоль Лябедзька:**

— Добра, я падыду з другога боку. У любым выпадку ёсць тыя, каго называюць "лукашысты". Гэта тыя людзі, якія ў любой сітуацыі будуць галасаваць самі ведаеце за каго...

**Юрась Чавусаў:**

— Іх усё менш і менш.

**Анатоль Лябедзька:**

— Іх няшмат, але яны ёсць. І ёсць тое, што называецца стабільны дэмакратычны электарат, які заўсёды галасуе за прадстаўніка дэмакратычных структур, не гледзячы на тое, каго ён прадстаўляе — больш правых ці зусім левых. І ёсць велізарная колькасць людзей — прашу прабачэння, так званае электаральнае балота — тыя, хто ніяк не можа вызначыцца. Што ім можна прапанаваць у гэтай сітуацыі?

**Аляксандр Дабравольскі:**

— Думаю, праблема нават не ў тым, што так званаму "балоту" трэба нешта прапаноўваць. Бо ў значнай колькасці гэта тыя людзі, якія лічаць, што ад іх голасу нічога не залежыць.



Юрась ЧАВУСАЎ.

**Анатоль Лябедзька:**

— Што ім можна прапанаваць?

**Аляксандр Дабравольскі:**

— Прапанаваць трэба не "балоту", а актыўнай частцы, каб яна расла. Таму што ніводны кандыдат да гэтай пары не змог мабілізаваць увесь дэмакратычны электарат. Ніводны кандыдат! Ні Ганчарык, ні Мілінкевіч, ні Казулін — ніхто! І нават у 2010 годзе кожны з кандыдатаў узяў патрошку ад дэмакратычнага электарату, але не ўвесь.

Справа ў тым, што людзі дэмакратычных поглядаў вельмі крытычна ставяцца і да дэмакратычных кандыдатаў. Яны хочуць, каб штосьці адбылося, але бачаць, што ніхто нічога не здольны змяніць.

У гэтай сітуацыі, калі няма выбараў, дапаможа толькі мабілізацыя людзей. А мабілізацыя пачынаецца з актыўных людзей, не з пасіўных.

**Анатоль Лябедзька:**

— Гэта правільна, але не адказ на маё пытанне. Мы сфармулявалі першы пункт: бяспека...

**Аляксандр Дабравольскі:**

— Мне здаецца, пытанне не мае сэнсу. Бо, калі ўдасца мабілізаваць актыўных людзей, пасіўныя падцягнуцца.

**Анатоль Лябедзька:**

— Так ці інакш спатрэбіцца фармуляваць пасланне грамадству, меседж. Мы зыходзім з таго, што маем адзінага кандыдата з адной стратэгіяй ці некалькі кандыдатаў, але з адной стратэгіяй. З чым звяртацца да людзей? Бяспека асобы і краіны? Так. А другі, трэці пункты ёсць?

**Юрась Чавусаў:**

— Няма такога паняцця, як адзін меседж для ўсіх. Кандыдат заўжды звяртаецца да нейкай мэтавай групы, што складае ядро ягонага электарату. І калі гэта ядро моцнае, тады можна звяртацца і да "балота", як вы яго назвалі, да тых, хто не вызначыўся.

**Анатоль Лябедзька:**

— Не я назваў, а палітолагі назвалі...

**Юрась Чавусаў:**

— Тыя, хто не вызначыўся, як правіла, ідуць за самым моцным кандыдатам. І вельмі шмат людзей падтрымліваюць Аляксандра Лукашэнку (нават не падтрымліваюць, а проста апускаюць за яго бюлетэнь у скрыню) па гэтай прычыне. Дарэчы, на гэтыя выбары ўжо пойдуць людзі, якія нарадзіліся пры Лукашэнку-прэзідэнце. То бок звычка ўжо ёсць — галасаваць за Лукашэнку. Але калі ў грамадстве будзе трывалая апазіцыйная — няхай не большасць, але трывалая, актыўная апазіцыйная меншасць, то яна, канешне, зможа перацягнуць тых, хто не вызначыўся.

**Анатоль Лябедзька:**

— Зайду да вас, экспертаў, з трэцяга боку. Дапусцім, мы адкрыта скажам, што альтэрнатыва курсу ўлады — еўрапейскі выбар, еўрапейскія каштоўнасці. Гэта азначае, напрыклад, што мы вернем мільён беларусаў, якія сёння вымушаны быць у становішчы гастарбайтараў. Гэта азначае, што мы прыцягнем інвестыцыі, створым новыя працоўныя месцы, мінімізуем карупцыю... Мы скажам, што рэальна можам зрабіць: адзін, два, тры...

Таму што агульныя разважанні, што нас павінна быць больш і што актыўныя пацягнуць за сабой менш актыўных, — гэта добра на тэарэтычным узроўні. Але якой павінна быць праграма, пасланне?

**Юрась Чавусаў:**

— З праграмай апазіцыі заўжды вельмі проста. Я прыгадваю нямецкія выбары, калі спадарыня Меркель дыскутавала з прадстаўнікамі сацыял-дэмакратычный партыі, і на дэбатах было зададзена пытанне: "Што вы зробіце?" Прадстаўнікі апазіцыйнай партыі сказалі проста: "Усё зробім інакш".

Апазіцыйным кандыдатам заўжды прасцей: яны могуць крытыкаваць уладу. І, канешне ж, самая моцная частка праграмы любога кандыдата — гэта будзе крытычная частка. Так традыцыйна ёсць, таму што гэта акурат і мабілізуе прыхільнікаў аппазіцыйных поглядаў, прыхільнікаў альтэрнатывы таму, што зараз адбываецца.

А складнікі гэтага альтэрнатыўнага меседжа могуць быць і эканамічныя, і датычныя ўзроўню жыцця, і, безумоўна, сітуацыі ізаляцыі Беларусі ад цывілізаванага свету... Усё тое, з чым людзі сутыкаюцца ў пэўных сітуацыях, калі, напрыклад, ім трэба паехаць на адпачынак і заплаціць шалёныя грошы толькі за тое, каб атрымаць візу. Усе гэтыя рэчы таксама апазіцыя можа ўздымаць на свае шчыты.

**Аляксандр Дабравольскі:**

— Я думаю, тут асноўная праблема ў тым, што людзі ўжо хочуць змен, нават у сваёй большасці хочуць змен, але адначасова яны іх баяцца. Многія думаюць: "Хаця б не было горш..."

**Юрась Чавусаў:**

— А горш і так робіцца. І ўсе даследаванні паказваюць, што людзі ўжо не чакаюць ад Лукашэнкі таго, чаго яны чакалі, напрыклад, дзесяць гадоў таму.

**Аляксандр Дабравольскі:**

— Тым не менш яны павінны перадолець гэты бар'ер свайго страху перад зменамі. Для гэтага, я лічу, трэба паказваць, якая будзе будучыня ў Беларусі пасля Лукашэнкі. Людзі ўжо думаюць пра гэта. Некалі ж Лукашэнка так ці інакш сыдзе, можа, не трэба чакаць, каб адбыліся нейкія перавароты, можа, неяк трэба раней...

Адным словам, важна паказваць будучыню Беларусі без Лукашэнкі, простымі зразумелымі словамі тлумачыць, што мы можам і павінны жыць лепш. Думаю, што такі меседж апазіцыя ў стане зрабіць. Хаця, на жаль, не ад апазіцыі ў першую чаргу будзе залежаць, ці зменіцца штосьці ў Беларусі. Зменіцца толькі тады, калі апазіцыя і людзі захочуць гэтага разам. Але я думаю, што такі час прыйдзе і гэта адбудзецца. Ці ў гэтую кампанію — не ведаю, але гэта абавязкова будзе.

**Юрась Чавусаў:**

— Спадар Дабравольскі, вы бачыце, спадар Лябедзька задае нам пытанні "што?", а мы спрабуем адказаць на пытанне "як?". Праблема ў тым, што няма дакладнай трывалай стратэгіі, няма бачання, як гэтыя змены наступяць.

Напрыклад, нават у 2001-м, у 2006-м, у 2010 годзе слова "плошча" — гэта быў адказ на тое, якім чынам гэтых змен можна дамагчыся. Зараз — не.

**Аляксандр Дабравольскі:**

— У мяне такога адказу таксама няма.

**Анатоль Лябедзька:**

— Думаю, мы яшчэ не раз збяромся, каб абмеркаваць і "што?", і "як?". Будзем лічыць, што сёння мы паспрабавалі намаляваць хаця б контуры сцэнарыяў, падзей, якія могуць разгортвацца ў 2015 годзе.

**Запісала Ганна КРАСУЛІНА.**

РЭЗАНАНС

# Провести честные выборы несложно

Александр Григорьевич Лукашенко высказал очень правильную мысль: предстоящие выборы должны быть объективными, честными и справедливыми. Лукашенко процитировала "Народная Воля", его высказывание прозвучало и в эфире ОНТ.




Я, как гражданин Республики Беларусь, всецело одобряю эти слова и желаю, чтобы они воплотились в реальность на предстоящих выборах президента Республики Беларусь. А для этого, в общем-то, многого и не надо. Знаю по собственному опыту: за свою жизнь я накопил солидный опыт в организации и проведении выборов различных уровней, в том числе и при советской системе.

Первый шаг к справедливым выборам — это формирование участковых избирательных комиссий. В них должны входить не более 1—2 человек от одной организации, учреждения, предприятия. В обязательном порядке должны входить хотя бы один-два человека от оппозиционных партий. Не следует включать в состав участковых избирательных комиссий работников администраций районов, даже если они являются представителями союза женщин, клуба любителей животных и других общественных организаций.

Председателей и секретарей участковых комиссий следует не назначать, а избирать на первом, организационном, совещании комиссии.

Следующий шаг — запретить администрациям районов назначать ответственными за организацию и проведение выборов на избирательных участках директоров предприятий, организаций и учреждений. Это особенно недопустимо на тех участках, где членами комиссий являются их подчиненные. Руководство работой участковых избирательных комиссий и осуществление контроля за ними должны проводить окружные избирательные комиссии, а не директора.

Также следует запретить директорам предприятий, организаций, учреждений, а также главам администраций районов выплачивать премии членам участковых избирательных комиссий по итогам проведенного голосования на участках. Ведь каждому избирателю известно, что премии выплачиваются за производственные успехи, а не за общественную работу.

Ну и, наконец, досрочное голосование. Его давно пора отменить, Если у кого-то по каким-то обстоятельствам не получается прийти на свой участок в день выборов, надо разрешить ему взять открепительный листок и проголосовать на любом избирательном участке, в том числе и за пределами Республики Беларусь. Такая практика была, к слову, в Советском Союзе.

Чтобы ни у кого не вызывало сомнений, что результаты голосования — честные, не написанные кем-то, проводить подсчет голосов надо публично. В Украине, например, каждый бюллетень при подсчете поднимают вверх, называют фамилию того, кому отдан голос избирателя и уже после этого кладут в стопочку.

Надо снять всевозможные ограничения по количеству наблюдателей. Предоставить возможность всем партиям, общественным организациям, другим кандидатам на избираемую должность, а также частным лицам направлять своих наблюдателей на процедуру подсчета итогов голосования. Причем регистрация наблюдателей должна проходить заблаговременно, до начала голосования, чтобы представить списки наблюдателей председателю участковой комиссии для того, чтобы он заранее определил место для наблюдателей при подсчете голосов.

Вот всего лишь несколько шагов, которые, на мой взгляд, необходимо сделать для того, чтобы выборы были объективными и справедливыми.

**Василий Васильевич РАКОВЕЦ, житель Минска.**

ПЫТАННЕ

## *А за што даплачваць? За чэргі?!*

*З задавальненнем і цікавасцю чытаю "Народную Волю". Розныя думкі ўзнікаюць пры чытанні таго ці іншага артыкула, некаторыя з іх выклікаюць абурэнне да іх аўтараў альбо герояў.*

Менавіта такія пачуцці ўзніклі, калі пачытаў інтэрв'ю дэпутата Д.Шаўцова "Нужна частичная оплата посещений поликлиники" ў нумары за 18 жніўня 2014 года.

Я хачу спытаць у гэтага так званага "народнага абранніка", у якой паліклініцы абслугоўваюцца ён і яму падобныя? Ці не дзеля іх будуецца новая бальніца дзесьці на лоне прыроды пад Мінскам, каб яны, схаваўшыся ад людскіх вачэй, маглі папраўляць сваё каштоўнае здароўе, страчанае на бясконцых пасяджэннях? Ці не лепш было б гэтыя бюджэтныя грошы накіраваць на мадэрнізацыю існуючых бальніц і паліклінік? А яшчэ лепш — на будаўніцтва яшчэ адной бальніцы для простых мінчан. Калі б такі сэрвіс, такое абслугоўванне, як у прэзідэнцкай бальніцы, прапанавалі нам у раённых паліклініках, тады, мажа, і так, можна было б думаць пра нейкую аплату. А за што сёння мы, заплаціўшы падаткі, павінны яшчэ даплачваць: за чэргі, за канвеер, "дзякуючы" якому ў доктара на пацыента ёсць толькі 10—15 хвілін?! Дайшло да таго, што медкабінеты прапаноўваюць адкрываць у шматпавярховых дамах, бо не хапае паліклінік!

І на фоне гэтага народны абраннік будзе яшчэ казаць пра аплату...

**Віктар ЛЮЦЬКО.**

*Мінск.*

МНЕНИЕ

# Как построить правовое государство?

*В журнале "Юстиция Беларуси" (2014, №7) опубликована статья члена-корреспондента Национальной академии наук, доктора юридических наук, профессора Валерия Гурьевича Тихини "Конституция независимой Беларуси: поиск оптимальной модели (1990—1994 гг.)". В ней автор рассказывает о некоторых обстоятельствах, связанных с принятием Конституции 1994 года, а также рассуждает о сложностях построения правового государства в Беларуси.*

## «Тернистый путь к правовому государству»

Книгу с таким названием В.Г.Тихиня издал в 1995 году, когда белорусское государство делало свои первые шаги после обретения суверенитета. В книге содержалась подборка статей на правовую тематику. Среди прочего речь шла о принципах, на которых должно строиться правовое государство: верховенство закона, разделение властей, соблюдение и защита прав человека.

Перед референдумом 1996 года Тихиня высказал резко отрицательную оценку поправок в Конституцию, предложенных президентом А.Г.Лукашенко. Так, при проведении "круглого стола" в Конституционном суде 9 сентября 1996 года В.Г.Тихиня отметил: *"Данный проект фактически легализует диктатуру одной личности, устанавливает всевластие президента республики. Парламент в лице Национального собрания становится марионеткой в руках исполнительной власти. Конституционный суд после предполагаемого реформирования превращается в "карманный" суд со всеми вытекающими последствиями. Ни в одной цивилизованной стране мира ничего подобного нет!"* (см.: Вестник Конституционного суда Республики Беларусь, 1996, № 3, с.74).

Предсказание В.Г.Тихини оказалось точным. Страна погрузилась в "правовой Чернобыль", то есть во тьму беззакония. В этой "тьме" Беларусь просуществовала 20 лет. И вот теперь В.Г.Тихиня предлагает вернуться к идее правового государства, провозгласив ее "в качестве общенациональной идеи".

## От идеи — к практике

Впервые идея построения в Беларуси правового государства была провозглашена в Декларации о государственном суверенитете БССР (с 19 сентября 1991 г. — Республики Беларусь). В преамбуле к Декларации было записано: *"Верховный Совет Республики Беларусь, выражая волю народа Республики Беларусь, осознавая ответственность за судьбу белорусской нации (...), торжественно провозглашает полный государственный суверенитет Республики Беларусь как верховенство, самостоятельность и полноту государственной власти республики в границах ее территории, правомочность ее законов, независимость республики во внешних отношениях и заявляет о решительности создать правовое государство".*

Эта идея стала краеугольным камнем Конституции 1994 года и получила закрепление в ряде ее статей. Беларусь должна была стать демократическим правовым государством с момента вступления в силу Конституции (30 марта 1994 года). Иное положение означало отступление от ее требований. Все государственные органы и должностные лица должны были неуклонно следовать Конституции и законам, принятым в ее развитие.

Однако введение должности президента республики сделало идею правового государства фикцией, поскольку президент со своими полномочиями изначально не вписывался в систему разделения властей. На практике это подтвердил первый президент А.Г.Лукашенко. Используя свои "царские полномочия", он быстро возвысился над другими ветвями власти и стал вмешиваться в их дела. Своими актами он стал нарушать Конституцию и законы. Найти управу на президента у тогдашнего парламента — Верховного Совета 12-го созыва — не хватило сил. Слабым сдерживающим фактором оказался и Конституционный суд, призванный охранять Конституцию.

Новый состав Верховного Совета 13-го созыва, сформированный в усеченном составе (197 депутатов из 260), начал отношения с президентом с "чистого листа". Но через полгода "прозрел" и поставил перед Конституционным судом вопрос об отрешении А.Г.Лукашенко от должности. Однако было поздно, да и Россия не осталась в стороне от разрешения "конституционного кризиса" в ноябре 1996 года.

В результате от правового государства ничего не осталось. Оно превратилось в диктатуру. И сейчас мало провозгласить идею правового государства. Ее надо как-то воплотить в жизнь.

## К правовому государству — через реформы

То, что раньше было реальностью, сейчас стало мечтой. Но мечты... сбываются, если к ним стремиться и прилагать усилия. Так и правовое государство. К нему придется идти постепенно, шаг за шагом. И эти шаги будут непростые.

На мой взгляд, на этом пути следует осуществить следующие меры: 1) восстановить действие Конституции 1994 года; 2) упразднить должность президента, возложив функции главы государства на председателя парламента; 3) восстановить функционирование однопалатного парламента; 4) обеспечить независимость судов через выборность судей; 5) восстановить местное самоуправление и управление в виде местных представительных органов и избираемых ими исполкомов; 6) учредить должность Уполномоченного по правам человека; 7) гуманизировать законодательство, в том числе отказаться от смертной казни как вида наказания; 8) вступить в Совет Европы и дать гражданам право обращаться в Европейский суд по правам человека; 9) вернуться к добросовестному исполнению международных обязательств по линии ООН и ОБСЕ; 10) подтвердить нейтральный статус республики и выйти из всех военных союзов.

Безусловно, каждый пункт программы нуждается в конкретизации и объяснении. Более того, можно спорить о правильности предложенных мер. Но важно определить дорогу, следуя которой Беларусь в конце концов станет демократическим правовым государством.

* * *

В нашей трудной ситуации лично меня вдохновляет то обстоятельство, что сегодня европейские государства признают демократию, верховенство закона, права человека важнейшими общечеловеческими ценностями. И Беларусь просто не может прозябать десятилетиями "в болоте", не решаясь выйти на столбовую дорогу цивилизации!

**Михаил ПАСТУХОВ, доктор юридических наук, профессор, сторонник правового государства.**

АСОБА

# І адзін у полі ваяр

## *Асаблівa калі гэта падпалкоўнік Станіслаў Суднік*

*Яму, рэдактару "Нашага слова" — выдання ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны", нядаўна стукнула шэсцьдзясят. А і зараз бачу яго такім жа энергічным, порсткім, перакананым і рашучым у служэнні справе, якую выбраў шмат годоў таму.*




Упершыню яго ўбачыў у 1997-м, у зале колішняга Дома літаратара, дзе сабралася пісьменніцкая грамада. Усе руліліся, ламалі галаву, як быць з няпростай, вострай праблемай, якая патрабуе неадкладнага вырашэння. Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны і яго друкаваны орган "Наша слова" былі пазбаўлены падтрымкі дзяржавы, апынуліся на безграшоўі, да таго ж яшчэ і без рэдактара. Якім жа чынам ураватаваць патрэбнае для прыхільнікаў роднай мовы выданне?

Доўга спрачаліся, ды ніхто не адважваўся ўзяцца за важную справу ў такіх крытычных варунках. І тут нечакана ў зале падняўся не надта мажны, але жвавы, па-вайсковаму падцягнуты чалавек і, пераадольваючы прыродную сціпласць (здаецца, нават рэплікі да гэтага не падаваў), сказаў цвёрда:

— Калі вы, шаноўныя, давереце мне "Наша слова", то бяруся яго выдаваць!

Усе з палёгкай уздыхнулі, загаварылі. Нарэшце знайшоўся смяльчак, хай паспрабуе. Ведае ж, пэўна, — ідзе на злом галавы! Дай Божа, каб атрымалася...

Ён — паспрабаваў. Не расказаць ужо, якімі высілкамі, намаганнямі і, калі хочаце, самаахвярнасцю вайсковец Станіслаў Суднік паставіў на ногі ляжачую было газету — змагарку за роднае беларускае слова. І ў яго атрымалася! "Наша слова" выходзіць і зараз, пры ўсіх цяжкасцях на шляху да тых, у кім жыве беларуская душа. Апорай яму — нязменная і глыбокая перакананасць у неабходнасці таго, што робяць яны з паплечнікамі-сябрамі. Дапамагае цвёрдасць пазіцыі, вайсковая загартоўка, звычка не хавацца ў кусты ад перашкод.

А хіба проста было падчас вучобы ў Вышэйшай зенітна-ракетнай вучэльні ў Мінску (зараз — Ваенная акадэмія) і ў Цвярской каманднай акадэміі імя Жукава авалодваць сучасным накірункам вайсковай навукі, без чаго Радзіму не абароніш? Аднак прыходзіла і мацавалася яснае разуменне: ракеты ракетамі, але магутней за самую сучасную грозную зброю — патрыятычная свядомасць сыноў сваёй зямлі. Свядомасць, што ўзыходзіць у чалавечай душы на грунце роднай мовы, гучыць у вуснах бацькоў, звініць у паветры, ліецца з неба...

Менавіта так было і з ім, хлопцам з вёскі Сейлавічы на Нясвіжчыне, які гадаваўся ў гаючай стыхіі беларускай гамонкі, панёс яе з сабою па жыцці, куды б яно яго ні кідала. Ніколі не здраджваў дарагому, незаменнаму. Не разумеў апраўданняў кшталту: "Да я тожа деревенски, у горади з мяне смяяліся, і я стаў, как усе, — на рускую перашоў..."

У Станіслава Судніка да сябе самога тут пытанняў не было. Служыў у войску на Урале ці ў Казахстане — добра, узорна служыў — ад свайго не адступаўся. Сярод землякоў-саслужыўцаў афіцэр-беларус стварыў моцную суполку ТБМ, выдаваў газету "Рокаш". Пасля вяртання на Радзіму — Беларусь ужо стала незалежнай — напоўніцу разгарнуў асветніцкую дзейнасць на хвалі нацыянальнага Адраджэння. Служыў ужо на сваёй зямлі! На вернасць ёй прысягаў на плошчы Незалежнасці разам з іншымі патрыётамі з Беларускага згуртавання вайскоўцаў, адным з заснавальнікаў якога быў сам. І ўзяўся за складанне руска-беларускага вайсковага слоўніка. Выдаў "Шыхтавы статут беларускага войска", стаў аўтарам шматлікіх даследаванняў аб нацыянальных моўных скарбах і геральдычным мінулым Айчыны. Гэтай тэме прысвечаны кніжка-даследаванне "Літва", зборнікі вершаў "Пагоня за мову", "Мой Грунвальд", "Лідскія скрыжаванні" і іншыя выданні.

Каторы ўжо год апантаны да самазабыцця чалавек, непахісны ў сваёй веры, з якім я пазнаёміўся амаль дваццаць гадоў таму і з якім шчыра пасябраваў, паранейшаму жыве ў аддаленым ад сталіцы горадзе Лідзе, нязменна выдае там зусім не правінцыйнае "Наша слова". Яно ідзе па ўсёй краіне, хоць і не без цяжкасцяў у ледзь не спрэс зрусіфікаванай краіне, стукаецца ў сэрцы землякоў: беражыце, перадавайце Боскі дар сваім нашчадкам дзеля будучыні! Тут — поўная сугучнасць са знакамітым запаветам Францішка Багушэвіча: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!". Гэта — і дэвіз жыцця Станіслава Судніка.

...Аднойчы я запытаўся ў Станіслава, якім чынам ён, вайсковы афіцэр, прыйшоў да Багушэвіча — аднаго з пачынальнікаў-першапраходцаў сучаснай беларускай літаратуры. Нямала ж сёння такіх, для каго імя і постаць вялікага паэта-дэмакрата, прыхільніка К.Каліноўскага, мужнага грамадскага дзеяча XIX стагоддзя ўжо растае недзе ў плыні часу, здаецца нечым далёкім ад вірлівых нашых дзён, турбот...

— Далёкім?! — усхадзіўся мой субяседнік. — Ды ў Багушэвіча, які выйшаў з беларускай глыбінкі і добра зведаў народнае жыццё як творца і абаронца сялянскіх інтарэсаў (ён жа быў па службе адвакат), змагаўся за чалавечыя правы, асвету і лепшую будучыню простага люду на абсягах волі і справядлівага ладу. Усё ў кожным яго слове і дыханні было такое жыццёвае, глыбокае, што і сёння гучыць актуальна, прымушае думаць і не шкадаваць сіл, каб наблізіць тое, аб чым яшчэ толькі марыцца зараз.

Праз кароткую паўзу сябра працягваў:

— А як горача гучыць у вуснах паэта ягоны зварот да простых людзей з наказам песціць-берагчы мову сваіх прашчураў! Ці маем мы права забыць гэтыя словы? Вось яны:

*"Братцы мілыя, дзеці Зямлі-маткі маёй! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, да не адны мы, а ўсе людзі мужыцкай завуць, а завецца яна "беларускай". Я сам калісь думаў, што мова наша — "мужыцкая" мова, і толькі таго! Але паздароў Божа добры людцоў, якія навучылі мяне чытаць і пісаць, з той пары я шмат гдзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў: і пераканаўся, што мова наша ёсць такая ж людская і панская, як і французская, нямецкая альбо іншая якая".*

Мне цікава: як і калі Станіслаў Вацлававіч упершыню далучыўся да паэзіі Багушэвіча?

— Яшчэ і ў школу не хадзіў, а ўжо чытаў на памяць вершык "Здарэнне" — такі даходлівы, паблажліва-смяшлівы, ну проста выхаплены з тагачаснага сялянскага жыцця.

*Ехаў раз я ад Кіяны,*
*Ды ў Смаргоні, і не п'яны,*
*І даехаў да Ваўкелы...*

Чуў я гэта, і не раз, ад сваёй бабулі Марыі Адамаўны Мысіцкай. А потым, прыдбаўшы першую кніжку — Багушэвічаў зборнік, убачыў там упадабаны з дзяцінства верш, даведаўся і пра яго аўтара.

Дык кім мне, скажыце, наканавана было ісці па жыцці? Служыў у войску — яшчэ савецкім, а ў душы смылела, рупіла рытарычнае пытанне Багушэвіча аб усё яшчэ надзённым: "Дзе ж яна, наша Беларусь?" І сам жа паэт адказваў: "Яна там, братцы, гдзе наша мова жывець". Пра ўсё гэта згадваю ва ўспамінах "З войска ў фронт". Спадзяюся, усім зразумела: фронт гэты — мірны, за зберажэнне неацэннага набытку многіх пакаленняў — роднай беларускай мовы.

...Падоўгу і не раз гаварылі мы з блізкім па духу чалавекам на хвалюючую абодвух, як і многіх беларусаў, тэму. І ўсё выразней бачыцца мне ў аблічча някідкага, звычайнага на першы погляд чалавека сутнасць і характар волата духу, пра якога з упэўненасцю можна сказаць: і адзін у полі — ваяр!

На шчасце, ён ужо далёка не адзін, у яго шмат сяброў і паплечнікаў, якія нядаўна шчыра віншавалі юбіляра з ягоным 60-годдзем. Зычылі ніколі не трапіць у адстаўныя на сваім гарачым фронце.

Я рады яшчэ раз выказаць табе, дарагі дружа, велізарную ўдзячнасць за непахіснасць на высакародным шляху, які ты выбраў сабе назаўжды, пажадаць ваярскага здароўя, духоўнай моцы! І, канечне, хачу падзякаваць за тое, што перадаў і мне часцінку свайго запалу ў служэнні роднай мове, сваёй захопленасці ў даследаванні жыццёвага, грамадскага і творчага подзвігу Францішка Багушэвіча — багатыра ў ганаровым шэрагу пакліканых Радзімай.

Добрага табе плёну ва ўсім, шаноўны Станіслаў Вацлававіч! Ганаруся, што мы робім адну справу.

**Уладзімір СОДАЛЬ, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

ИЗ ПИСЬМА

# Нужны ли в больничных палатах телевизоры?

Этот вопрос мучает меня давно. Лежал как-то в неврологическом отделении городской больницы, проходил обследование. И как-то из приоткрытой двери соседней женской палаты услышал: "Заткните уши и закройте глаза..." Прислушиваться к ссоре находившихся в ней женщин не было интереса. Но на следующий день, встретив пациентку, в адрес которой прозвучали эти грозные слова, не удержался и спросил:

— Что случилось, из-за чего между вами разгорелся тот сыр-бор?..

— Если бы этот спор был только вчера... — вздохнула женщина. — Всё из-за этого распроклятого телевизора. В минуты тихого часа хочется вздремнуть, успокоить нервы, а соседка — настырная, включает ненавистный мне сериал. Где тут успокоишься!.. И так не только вечером, а даже ночью, после отбоя. Я эти сериалы обхожу стороной даже дома. Не до них мне. А тут они — одно наказание...

Женщине посочувствовал, потому что и сам переживал подобное. Когда на телеэкраны вышел сериал "Глухарь", я лежал в больнице. Показывали этот сериал и днем, и ночью. Один сосед занимал "нейтралитет". А вот другой не мог обойтись без полюбившегося "Глухаря". Мой намек про "Глухаря" он воспринял глухо. И я понял, что препираться с ним будет бесполезно, только себе во вред... Натягивал на голову одеяло и, закрывая глаза и затыкая уши, потихоньку засыпал...



На этот раз в палате нас было пятеро, и только один я пребывал в решительном одиночестве. Интересы остальных в отношении телевизора разделились поровну...

Давно у меня назревал вопрос: а нужны ли вообще эти спорные черные ящики в больничных палатах?! Не знаю, как где, а в Барановичах они установлены буквально во всех палатах городской больницы. Видимо, для удовлетворения культурных запросов пациентов. Но, как видно из приведенных выше примеров, иногда — во вред их здоровью. Люди раздражаются, спорят, в конце концов, то, что нравится одному, мешает другому. А когда сейчас во время украинского кризиса мнения белорусов относительно этой ситуации разделились, страшно представить, какие могут возникать конфликты и гореть страсти в больничных палатах после просмотра российских новостных передач!

Мне кажется, телевизоры из больничных палат надо убрать.

Когда садился писать эту заметку в газету, хотел поставить рубрику "Давайте обсудим". Но потом решил, что говорильня тут неуместна: те, кто не может обойтись без "Глухарей", будут громко ратовать за телевизоры в больничных палатах, а те, кто любит тишину, станут приводить аргументы против. Вряд ли пациенты найдут взаимопонимание по этому вопросу. Тут, как мне кажется, следует проявить инициативу врачам, администраторам больниц и своим волевым решением убрать телевизоры из больничных палат. Это решение однозначно не навредит пациентам. И, думаю, пользы от такого решения будет больше.

**Михаил ЖУКОВ, ветеран труда советского времени.**

